

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 48(485) 6 СНЕЖНЯ 2000 г.

# 80 гадоў Слуцкаму Збройнаму Чыну

## III-я Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі

2-га – 3-га снежня ў Менску адбылася III-я Асамблея дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі.

Для ўдзелу у Асамблеі зарэгістраваліся прадстаўнікі 218 арганізацый Беларусі.

Асамблея прагаласавала за заснаванне асацыяцыі грамадскіх арганізацыяў з назвай Асацыяцыя грамадскіх аб'яднанняў "Асамблея".

Асацыяцыя створана з мэтаю заключэння 3-га сектару ў афіцыйныя рамкі дзейнасці. Гэта значыць, што АГА "Асамблея" будзе рабіць спробу рэгістрацыі ў Міністэрстве юстыцыі. І зараз ужо справа ўладаў: ці мецъ зарэгістраваную і ў значнай ступені прагназаваную і падкантрольную асацыяцыю ці і надалей займацца з сотнямі незарэгістраваных, непадказальных і непадкантрольных нікому мініарганізацый, груп, клубаў і г.д. Усе арганізацыі, якія жадаюць выступіць заснавальнікамі Асацыяцыі, павінны падаць адпаведныя дакументы ў выканаўчае бюро Асамблеі да 14 снежня 2000 года.

Асамблея абрала новую рабочую групу ў складзе 42 чалавек; па 3 чалавекі ад кожнай вобласці і па 3 чалавекі ад 8 кірункаў дзейнасці.

Рабочая група атрымалася даволі вялікай, але, улічваючы рост колькасці грамадскіх арганізацый ёсць спадзеў, што яна акажацца працаздольнай, тым больш, што каля паловы яе складаюць мянчане.

Старшынём рабочай групы Асамблеі абраны Алесь Бяляцкі – старшыня буйнейшай беларускай праваахоўчай грамадскай арганізацыі "Вясна-96".

У склад рабочай групы ўвайшла дастаткова вялікая колькасць сяброў ТБМ, у прыватнасці – старшыня ТБМ Алег Трусаў, старшыня Менскай гарадской арганізацыі ТБМ Алена Анісім, старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік і іншыя.

Асамблея зацвердзіла Статут Асацыяцыі грамадскіх аб'яднанняў "Асамблея" і шэраг рэзалюцый.

З лінгвістычнага пункту гледжання трэба адзначыць шэраг наватарстваў у Статуце і рэзалюцыях. Так са Статуту знікла слова "сябар" і "сяброўства". У апошні час Мінюст "назло праклятым нацыяналістам" не хоча рэгістраваць дакументы з словам "сябар". Таму замест слова "сябар" у Статуце ўжыта слова "чалец" паводле слоўніка Вацлава Ластоўскага. Замест "сяброўства" ўжыта "чалецтва", амаль "калецтва", хаця слоўнік таго ж Ластоўскага падае "чэльства". Як падаецца, перш чым несці Статут у Мінюст, яго павінны яшчэ добра глянуць лінгвісты.



*Прэзідыюм Асамблеі*

## Створым сваю стратэгію

23 лістапада б. г. адбылося пасяджэнне Сакратарыяту ТБМ, на якім былі разгледжаны прапановы па стварэнні стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі, якая, згодна з рашэннем Рады ТБМ ад 14 кастрычніка б. г., будзе вынесена на абмеркаванне VII з'езду Таварыства. З дакладам выступіў Сяргей Запрудскі, ён прапанаваў праект складу рабочай групы. Было прынята рашэнне зацвердзіць на наступным пасяджэнні Сакратарыяту канчатковы яго склад пасля ўдакладнення і кансультацый з рэгіянальнымі арганізацыямі.

У дакладзе была выкладзена тэорыя неабходнасці стратэгіі, роля і месца ў ёй ТБМ. Гаварылася, што стратэгія патрэбна, каб больш выразна паставіць у грамадстве пытанне неабходнасці захавання беларускай мовы. Стратэгія – гэта падрыхтаваны калектыўнымі намаганнямі дакумент, якім Таварыства мае кіравацца ў сваёй дзейнасці ў найбліжэйшых 20 гадоў.

У сваім судакладзе Людміла Дзіцэвіч больш дэталёва канкрэтызавала дзейнасць і ролю ТБМ у-рэчышчы распрацоўкі стратэгіі. Выказала свае прапановы ў яе стварэнні.

Вырашана звярнуцца да грамадскіх, палітычных, дзяржаўных і прыватных арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў прыняць удзел у выпрацоўцы Стратэгіі; разгарнуць дыскусію у газеце "Наша слова"; звярнуцца праз друк да грамадзянаў краіны. Вызначаны адказныя за збор і апрацоўку прапаноў пры сядзібе ТБМ.

На Сакратарыяце былі агучаны ўжо паступіўшыя да Стратэгіі прапановы Генадзя Бураўкіна і Генадзя Цыхуна.

Сябры ТБМ, Сябры ТБМ, чытачы газеты свае меркаванні, прапановы могуць дасылаць непасрэдна ў сядзібу, альбо ў газету "Наша слова".

**М. Л.**

## Памяці Ўладзіміра Караткевіча

26 лістапада к-тр "Змена" прымаў людзей у дзень 70-х угодкаў з дня народзінаў слыннага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. Зала была паўнютка – школьнікі, студэнты, сталыя людзі. Многія прыйшлі з могілак, дзе знайшоў апошні спачын аўтар "Зямлі пад белымі крыламі".

Вечарыну адкрыла дырэктар кінатэатра "Змена" руплівая гаспадыня Ніна.

Вяла імпрэзу Людміла Дзіцэвіч. Выступаўцаў было шмат: старшыня ТБМ Алег Трусаў, пісьменнік Кастусь Тарасаў, кінарэжысёр Уладзімір Арлоў, былыя кіраўнікі Мсціслаўскага раёну сп. Катушкін і Рыжанкоў, а таксама старшыня Віцебскай абласной арганізацыі ТБМ Іосіф Навумчык.

Яны распавядалі пра стасункі з Ул. Караткевічам, пра падзеі, цікавыя, сур'ёзныя, гумарыстычныя. Асабліва захапіў усіх аповед рэжысёра фільма "Ул. Караткевіч г. Мсціслаў" Ул. Арлова пра акалічнасць стварэння стужкі, пра недалёкую яшчэ дурнотную савецкую рэчаіснасць. І так прыемна было ўсведамляць, што не ўсе партыйныя і савецкія чыноўнікі паддаліся тады бяздумнаму служэнню партыйнай сістэме, што многія аддана шчыравалі на ніве Беларушчыны, натхнёныя вобразамі знанага творцы.

Напрыканцы вечарыны прысутныя паглядзелі дакументальны фільм "Уладзімір Караткевіч. Мсціслаў", а таксама мастацкі фільм "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". На вечарыне прысутнічалі кіраўнікі рэгіянальных структур ТБМ з усёй Беларусі.

**Наш кар.**



*Літаратурным святам "Сын зямлі пад белымі крыламі" пачаліся ў Віцебску ўрачыстасці, прысвечаныя юбілею Уладзіміра Караткевіча. У рамках свята: адкрыццё выставаў "Віцебскія мастакі -- Уладзіміру Караткевічу і "Уладзімір Караткевіч і тэатр" і іншыя мерапрыемствы.*

***На здымку:*** *на свяце ў бібліятэцы імя У. Караткевіча.*

***Фота Аляксандра Хітрова, БелТА.***

Ф. СП - 1

Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

На 2001 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

ПВ | месца | літар — на газету / часопіс **63865** (індэкс выдання)

***НАША СЛОВА***
(назва выдання)

Кошт: падпіскі **645** руб. / пераадрасоўкі ___ руб. Колькасць камплектаў **1**

На2001 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| X | X | X | | | | | | | | | |

Куды ______ (паштовы індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прозвішча,ініцыялы)





Нашы рэгіёны

# Працуй пільна – і ў правінцыі будзе Вільня

*Гэты год адметны для сяброў Баранавіцкай філіі ТБМ імя Ф.Скарыны – адной са старэйшых грамадскіх арганізацыяў горада споўнілася 10 год. І можна было б не звяртаць на гэта ўвагі. Калі б не адна акалічнасць: з усіх філіяў ТБМ на Беларусі Баранавіцкая з'яўляецца адной з найболып дзейсных і дасведчаных. Гэта лішні раз сцвердзіла вечарына, прысвечаная юбілею арганізацыі, на якую прыйшло больш за 300 жыхароў горада. Не ведаю, ці ў стане арганізаваць падобнае якая іншая рэгіянальная ці менская арганізацыя Таварыства. Гэта не дзіва, бо ў той час, калі шмат хто з былых (і цяперашніх ТБМ-аўцаў) наракае на ўрад, дурны народ, адсутнасць падтрымкі і г. д., у Баранавічах людзі папросту працуюць. Яны ставяць перад сабою задачу і выконваюць яе.*

*Але аб працы арганізацыі лепей распавядзе яе старшыня...*

**6 верасня** 1989 года ў **Баранавічах** утварылася **гарадская** арганізацыя **Таварыства** беларускай мовы **імя Ф. Скарыны**. Ужо адбыліся ў Менску Дзяды-88 і **мітынг 19 лютага** 1989 г. на **стадыёне** "Дынама". Пачаўся **"час вулічных акцыяў", час стварэньня незалежных ад улады арганізацыяў**, якія **тады называліся** "нефармальнымі". Пачалася трэцяя "ліберальная вясна" дэмакратычнага руху. Гэта быў самы рамантычны перыяд нашай дзейнасці і час найлепшых спадзяванняў.

Баранавіцкую структуру ТБМ узначаліў Міхась Бернат, які працуе ў аддзеле **культуры** Баранавіцкага **райвыканкама**. Яго намеснікамі сталі выкладчыца беларускай мовы СШ №2 Лілея Плыгаўка і паэт Мікола Бусько. Скарбнікам быў абраны Міхаіл Кадыка – эканаміст па адукацыі. Сакратаром стала Лідзія Антановіч.

Як некалі ў пачатку XX стагоддзя "нашаўніцы" абуджалі беларускі народ, так і цяпер, праз 80 год сябры ТБМ мелі такія ж мэты. Таму прыярытэтнае мейсца ў дзейнасці нашаі арганізацыі заняла асвета. Сябры ТБМ добра разумелі, што, не ведаючы сваёй гісторыі, немагчыма спрычыніцца да нацыянальнага адраджэння Беларусі. Вось чаму было вырашана стварыць "Школу па вывучэнні гісторыі, мовы і культуры Беларусі". Заняткі, якія праводзіліся на грамадскіх пачатках, вялі не толькі мясцовыя настаўнікі, але і навучэнцы з Менску ды іншых месцаў Беларусі. Ішлі ў гэтую школу рабочы і службовец, чыноўнік і вайсковец, настаўнік і вучань, маладыя і стары. Зацікаўленасць людзей роднай гісторыяй, мовай і культурай прыносіла для выкладчыкаў найвялікшую радасць.

Акрамя школы ТБМ актыўна далучалася да ўсіх культурніцкіх мерапрыемстваў, што праводзілася ў горадзе і раёне. Намаганнямі сяброў таварыства ў Баранавічах была адноўлена традыцыя калядавання і валачобніцтва. І сёння вельмі прыемна бачыць юнакоў і дзяўчат, якія калядуюць з такім натхненнем і жаданнем.

У 1991 годзе пачала выходзіць беларускамоўная газета "Баранавіцкае слова" (рэдактар – Аркадзь Блінкоўскі). Газета з'яднала вакол сябе ўсе беларускія патрыятычныя і культурніцкія сілы горада. На вялікі жаль, абараніць газету ад наскокаў ворагаў беларушчыны не ўдалося. І цяпер мы не маем сваёй беларускамоўнай газеты ў горадзе. А яна вельмі патрэбная для нацыянальна-культурнага адраджэння ў рэгіёне.

Хацеў бы адзначыць, што ТБМ вельмі шмат зрабіла для развіцця нацыянальнай самасвядомасці, для вывучэння гісторыі Беларусі.

Намаганнямі сп. Берната ў вёсцы Лясная быў устаноўлены памятны знак бацьку першага беларускага вандроўнага тэатру Уладзіславу Галубку. Устаноўлена мэмарыяльная дошка Аляксандру Лянкевічу -- кіраўніку зводных аддзелаў паўстанцаў 1863 года ў вёсцы Мілавіды.

1992-1993 гады – найлепшыя часы ў дзейнасці Баранавіцкай арганізацыі ТБМ.

Кіраўніком беларускай дзяржавы ў той час быў С. С. Шушкевіч і беларуская мова пастуова пранікла ва ўсе сферы нашага жыцця. У беларускамоўных класах горада навучалася 2/3 дзяцей. Нават у вайсковых частках ствараліся кабінеты па вывучэнню беларускай мовы і гісторыі Беларусі. Агульнавядома: на чыёй мове гаворыць войска, тую краіну, той народ яно бароніць.

Самым цяжкім і трагічным для нашай дзейнасці стаў 1995 год. На майскім рэферэндуме была не толькі знішчана афіцыйнасць нашых нацыянальна-дзяржаўных сімвалаў, але і быў ганебна забіты рамантызм беларускага нацыянальнага руху. Наймацнейшы ўдар нанеслі "інтэгратары" па беларускай мове. Менавіта пасля рэферэндуму пачалі закрывацца беларускамоўныя класы, школы, газеты і г. д. У цяперашні момант у беларускамоўных класах горада Баранавічы займаецца прыблізна 150 вучняў. А да 1995 года гэтая лічба была большай за 9 тысячаў.

Аднак, пераадолеўшы паслярэфэрэндумны шок, мы паступова пачалі набіраць былую моц і натхнёнасць. Цяпер на ўласным досведзе мы зразумелі, што свядомаму беларусу жыць і працаваць на Беларусі заўсёды было вельмі цяжка. Гучыць парадаксальна, але гэта так.

Нягледзячы на ўсё мацнейшы ціск на беларускасць, ТБМ працягвае працаваць на ніве адраджэнне. За апошнія гады мы правялі каля 10 віктарынаў па гісторыі роднай зямлі і славутасцях Беларусі. Ладзяцца інтэлектуальныя гульні са школьнікамі, навучэнцамі і студэнтамі. Рада ТБМ арганізоўвала і праводзіла вечарыны, прысвечаныя Яну Чачоту, М. К. Агінскаму, М. Радзівілу Чорнаму, Т. Касцюшку, Л. Сапегу. Вось ужо 4 гады на Баранавіцкім радыё выходзіць штотыднёвая перадача "Люблю наш край". Вядучы гэтае перадачы – Алесь Горбач.

Выступаючы на адным з расейскіх тэлеканалаў А. Лукашэнка сказаў, што на Беларусі пражывае 25% рускіх, 10% палякаў, 25% - гэта змешаныя, а 40% - папросту нейкая этнічная маса людзей (насельніцтва). З інтэрвію вынікала, што на Беларусі вельмі шмат расейцаў, а беларусаў бы і няма. Як тут не ўзгадаць верш Ларысы Геніюш:

*Далі табе нямала чарак*
*На твой нацыянальны сон,*
*Народ сьвінарак і даярак,*
*Каб толькі не беларусоў.*

Вельмі цяжка, што вышэйшае кіраўніцтва нашай дзяржавы робіць такія захады, скіраваныя супраць беларускасці. Ва ўсім свеце мова захоўваецца пры дапамозе дзяржавы. З набыццём незалежнасці ірландскі ўрад аднавіў на дзяржаўным узроўні ірландскую мову. Так зрабілі і чэхі ў 1918 годзе. Дзяржава Ізраіль, якая ўтварылася ў 1948 годзе, аднавіла іўрыт, і гэтая мова стала дзяржаўнай. Нарвежскі ўрад на працягу апошніх 30 год вярнуў з нябыту амаль цалкам знішчаную нарвежскую мову і зараз ёю карыстаецца большасць насельніцтва.

Нашая найвялікшая сёння праблема – гэта адсутнасьць дзяржаўнай падтрымкі.

Але мы не страчваем надзеі і веры ў тое, што беларуская мова адродзіцца і зойме сваё пачэснае месца сярод еўрапейскіх моваў. Нас вельмі натхняе апошні перапіс насельніцтва. Па яго́ных выніках ў 1999 годзе ў Баранавічах беларускую мову назвалі роднай 113048 чалавек, ці 86,3% ад колькасці насельніцтва. На беларускай мове дома размаўляе 38365 чалавек. Вынікі перапісу насельніцтва даюць нам падставу патрабаваць ад уладаў выканання "Закона аб мовах".

У нашым горадзе няма ніводнай беларускамоўнай школы, а ў дзяржаве – ніводнай ВНУ з беларускай мовай выкладаньня. Змаганне за беларускае школьніцтва, за беларускі нацыянальны ўніверсітэт – гэта нашая задача. Таму што гэта – змаганне за гонар нацыі.

***В. Сырыца**, старшыня Баранавіцкай Рады ТБМ імя Ф.Скарыны.*

# РЭЗАЛЮЦЫЯ КАНФЕРЭНЦЫІ

## "Стан беларускай мовы і шляхі пашырэння сферы яе грамадскага ўжывання"

3.11.2000 г. у Віцебску адбылася гарадская канферэнцыя прадстаўнікоў настаўнікаў беларускай мовы ўсіх школ разам з прадстаўнікамі выхавацеляў дзіцячых садоў, выкладчыкаў дзяржуніверсітэту, гарадскіх аддзелаў адукацыі, гандлю, культуры, транспарту і ТБМ на тэму "Стан беларускай мовы і шляхі пашырэння сферы яе грамадскага ўжывання". На канферэнцыю былі запрошаны прадстаўнікі СМІ горада.

Мэта канферэнцыі: выявіць магчымыя канструктыўныя прыёмы пашырэння сферы ўжывання беларускай мовы ў Віцебску і іх практычнае выкарыстанне ў сучасных умовах.

Нягледзячы на патрабаванне рэферэндуму 1995 г. аб роўным статусе беларускай і рускай моваў у сферы грамадскага ўжывання і патрабаванні Закона аб "забяспячэнні ўсебаковага развіцця і функцыявання беларускай і рускай моваў ва ўсіх сферах грамадскага жыцця", канферэнцыя канстатуе, што адносіны ў горадзе да беларускай мовы не адпавядаюць гэтым патрабаванням.

У адпаведнасці з гэтым і спасылаючыся на рэальныя ўяўленні аб роднай мове, выказаныя пад час перапісу насельніцтва 1999 г., канферэнцыя адзначае, што для захавання нацыянальнай каштоўнасці – беларускай мовы, у якасці першых крокаў неабходна зрабіць наступнае:

1. Горад павінен мець нацыянальнае аблічча – вуліцам, плошчам, гістарычным мясцінам, асабліва ў цэнтры горада, трэба вярнуць гістарычныя старажытныя назвы (вярнуцца да канцэпцыі камісіі па захаванню гістарычнай спадчыны).

2. Святочнае афармленне горада, візуальная рэклама, аб'явы, афішы, назвы крамаў і іх аздабленне трэба рабіць па-беларуску.

3. На гарадскім транспарце прыпынкі і аб'явы на аўтавакзалах павінны рабіцца па-беларуску (існуе методыка і ёсць вопыт, нават у Віцебску, абвяшчэння прыпынкаў па-беларуску).

4. Білеты для праезду ў гарадскім транспарце павінны друкавацца па-беларуску.

5. Выступленні на ўрачыстасцях, іншых публічных мерапрыемствах афіцыйныя і адказныя асобы павінны пераважна рабіць па-беларуску.

6. Для кіраўнікоў усіх рангаў аднавіць курсы для ўдасканалення беларускай мовы ў адпаведнасці з арт. 4 Закона аб мовах для таго, каб ёю валодаць пісьменна і свабодна спачатку ў сваім асяродку, а пасля і на людзях.

7. У дзяржаўных СМІ і, асабліва, на радыё і тэлебачанні рэклама павінна перадавацца па-беларуску. Трэба прызнаць ганебнай практыку тых журналістаў, якія пры звароце да суразмоўца (асабліва, калі гэта нейкі кіраўнік) адразу пераходзяць на рускую мову. У нас няма людзей, якія не разумеюць беларускую мову.

**Выхаванне і адукацыя**

Трэба адзначыць, што нямала выхавацеляў дзіцячых садоў, настаўнікаў школ і выкладчыкаў ВНУ горада, якія імкнуцца захаваць найвялікшы народны скарб – нацыянальную мову. Але стан мовы і культуры патрабуюць неадкладных дадатковых высілкаў у галіне выхавання і адукацыі. Павінны выконвацца і пашырацца канцэпцыя нацыянальнай адукацыі па лініі: дзіцячы сад – школа, ПТВ, тэхнікум – ВНУ, для чаго ў кожным раёне горада стварыць беларускую школу і ў бліжэйшых да яе дзіцячых садах выхаваўчую працу арганізаваць на патрэбу гэтым школам.

Павялічыць у школах і пазашкольных установах горада колькасць краязнаўчых гурткоў з беларускай мовай.

У кожным раёне горада стварыць школьныя музеі – сапраўдныя асяродкі беларускасці. Для гэтага арганізаваць рэгулярны семінар для падрыхтоўкі кіраўнікоў краязнаўчых дзіцячых суполак.

Канферэнцыя лічыць карыснай прапанову распачаць пад кіраўніцтвам спецыялістаў дзяржуніверсітэту параўнаўчае вывучэнне асаблівасцяў і гістарычных тэндэнцый развіцця мовы карэнных беларусаў Віцебшчыны. Пажадана правесці навуковую канферэнцыю "Мова беларусаў Віцебшчыны". Для стварэння лепшых умоў для мясцовых даследчыкаў абласной бібліятэцы неабходна набыць працы М. Каспяровіча "Віцебскі краёвы слоўнік" 1927 года.

# Без беларускай мовы сучасная школа не мае перспектывы

Вельмі змястоўны, доказны і патрэбны артыкул В.Палсцюка "Стан беларускай мовы ў сярэдняй адукацыі" надрукавала "Наша слова" у № 39. Ёсць патрэба яго дапоўніць сваімі развагамі і фактамі.

Як вядома, Міністэрства адукацыі пры аналізе стану нашай мовы карыстаецца сярэднімі лічбамі школ у рэспубліцы, у якіх дзеці вучацца на адной ці другой або на абедзвюх мовах. Такое прыводзіць да скажонай, неаб'ектыўнай ацэнкі гэтай праблемы. У сярэднім гэтая лічба нядрэнная, хоць і паказвае паступовае змяншэнне беларускамоўных школ і класаў і значнае ўзрастанне рускамоўных. Гэта дае магчымасць міністру адукацыі В. Стражаву гаварыць аб нібыта намеціўшайся стабілізацыі з выбарам мовы навучання ў школах. Але трэба ўлічваць, што сельскія беларускія школы, хоць іх і шмат, ды больш, чым напалову, складаюць малакамплектныя пачатковыя і базавыя, у іх вучыцца толькі 30% усіх вучняў. А рускія – гэта на 78% гарадскія сярэднія, і ў іх вучыцца аж 70 % школьнікаў Беларусі. Вось чаму сярэднія такія лічбы ўводзяць грамадскасць у зман і, магчыма, патрэбны міністэрству, каб схаваць рэальны малюнак.

Найбольш праўдзівыя звесткі аб стане нашай мовы і яе перспектывах у сярэдняй адукацыі даюць пачатковыя класы і наборы апошніх гадоў у першыя і падрыхтоўчыя класы гарадскіх школ. Аб гэтым сведчыць табліца 2, прыведзеная ў артыкуле. З яе відаць, што ў Менску ў мінулым навучальным годзе ў першыя класы паступіла на навучанне па-беларуску толькі 4,9% дзяцей, а ў Віцебску толькі 1,4%, а яшчэ ў некаторых буйнейшых гарадах зусім няма такіх класаў. Такую ненармальную сітуацыю немагчыма растлумачыць, але В. Стражаў сумеў і гэта зрабіць: "Аднак гэты працэс трэба лічыць заканамерным і правамерным, так як камплектаванне класаў і груп па мовах навучання і выхавання ажыццяўляецца ў адпаведнасці з пажаданнямі бацькоў" ("СБ" 27.У.2000г.).

А што робіцца ў малых гарадах раённага ўзроўню, відаць у Ашмянах. Сапраўды, у трох гарадскіх сярэдніх школах 5-9 класы больш чым напалову беларускамоўныя. Гэта вынік набораў вучняў папярэдніх гадоў. А вось дадзеныя паступлення вучняў за апошнія гады пасля рэферэндуму 1995 года. Чацвёртых беларускіх класаў у горадзе 4, у іх дзяцей 81; рускіх класаў 9 і вучняў – 219. Другіх-трэціх беларускіх класаў – 3, дзяцей –57; рускіх – 9 класаў, вучняў – 202. У мінулым годзе адкрылі першых беларускіх класаў 3, вучняў – 45, рускіх – 10, вучняў –227. У гэтым навуч. годзе ў адзін падрыхтоўчы беларускі клас прынята 16 вучняў, а рускіх класаў 11, усіх вучняў 231.

Як бачым, адзін падрыхтоўчы клас на роднай мове захаваўся на ўвесь горад у СШ № 1, дзе дырэктарам працуе М. М. Гружэўскі. Дарэчы, гэта адзіная школа ў горадзе, дзе ўсе 5-11 класы цалкам беларускамоўныя – 665 вучняў. Але ў школе не маюць цвёрдай надзеі, што ў наступным годзе набярэцца хоць адзін беларускі клас. Гэта вынік моўнай палітыкі вышэйшай улады РБ, якая вядзе ў перспектыве да поўнага выцяснення нашай мовы з сярэдняй адукацыі.

Але без беларускай мовы нашая школа -- гэта проста пасрэдная копія расейскай, а копія яна і ёсць копія. Такая школа не мае ніякіх перспектываў.

***Міхась Пузіноўскі**, г.Ашмяны.*



№ 48 (485) 6 СНЕЖНЯ 2000 г.

Даклады на канферэнцыі "Беларуская тапаніміка. Гісторыя і сучаснасць." 14 кастрычніка 2000 года

У.У. Барысюк, Т.Ф. Барысюк

# ГІДРОНІМЫ БАБРОВІЦКАГА ВОЗЕРА

На паўднёвым усходзе ад Івацэвічаў за 30 км у басейне ракі Грыўды і на вадападзеле рэк Шчара і Ясельда створаны гідралагічны заказнік Выганашчанскае, у межы якога ўваходзяць азёры Выганашчанскае (Выганаўскае) і Бабровіцкае. Нашаю мэтаю будзе апісанне гідронімаў Бабровіцкага возера. Праўда, неабходна адзначыць, што баброўцы суседняе возера называюць толькі другою назваю: ***За Выгоновскім возером. От Выгоноска возера ісці далеко.*** Бабровіцкае возера ў старажытнасці называлася Вядскае. І гэта было, відаць, лагічна, бо Вяда *(н. р.)* было самае даўняе паселішча ў Вядскім краі, існавала Вядская воласць, мела царкву. З пакалення ў пакаленне пераказваецца, як аднойчы едучы лодкамі пасля службы ў царкве з Вяда ў Бабровічы ўсхадзілася бура, лодкі перакуліліся, ніхто дакладна не ведае, колькі баброўцаў тады загінула. Ці не гэты жудасны выпадак прымусіў перавезці царкву з Вяда ў Бабровічы, і ці не гэта паслужыла асноваю для замены назвы возера? Магчыма, перайменаванню паспрыяла і тое, што на возеры вяліся ў немалой колькасці бабры, а мо яшчэ і тое, што цэнтр грамадскага жыцця перамясціўся ў Бабровічы, якія ўжо да апошняй па часе вайны больш чым у тры разы па колькасці насельніцтва перавышалі Вяда.

Усё жыццё баброўцаў цесна звязана з возерам, уздоўж якога прыкладна на паўкіламетровай адлегласці паралельна берагу возера размясцілася вёска. Адзначым, што вяскоўцы – 'зацятыя' рыбакі – настолькі ведаюць возера, што на традыцыйнае запытанне – дзе лавіў рыбу? – абавязкова назавуць дакладную частку возера, якая, што зусім зразумела, мае таксама сваю назву. Больш за тое, сённяшнія дзяды, бацькі адчуваюць сябе на возеры ў любое надвор'е ўсё роўна як на сваім падвор'і, хоць толькі адзінкі з іх умеюць плаваць. Змешчаныя ніжэй гідронімы Бабровіцкага возера прыадкрываюць не адну старонку гісторыі гэтага дзівоснага кутка Берасцейска – Пінскага Палесся.

**БОБРО`ВЭД/ДЗ/Ь**, *ж. і н.* Частка возера і вялікае балота ля возера, якое выкошваецца ўскрайкамі звычайна ў ліпені, калі крыху сцягне ваду. Трава да гэтага часу перастаіць, ідзе толькі на падсціл. У апошнія гады ў сувязі з тым, што няма ўжо каму касіць, балота інтэнсіўна зарастае розным хмызняком (лазою, чэзлымі альхою і бярозаю). Назва відавочна паходзіць на ад бяброў, якія тут жылі заўсёды, захавалася тут яшчэ і цяпер адна бабровая хатка, дзе якраз і жывуць сапраўдныя гаспадары возера –бабры. ***Туды, на Бобровэдзь.***

**БЭРОЗОВ**, *м. і н.* Частка возера і вялізнае балота, якое на многія кіламетры – ушыркі і ўздоўжкі – цягнецца ад возера; балота парослае беразняком, які проста не расце вялікім, відаць, з-за лішкаў вільгаці. Менавіта ў Бярозаве знаходзяцца самыя буйныя ў акрузе журавінныя плантацыі, дзе за светавы дзень – пры ўраджаі – баброўцы – можа быць і гаспадар, і гаспадыня – набіраюць столькі журавінаў, што аднаму зрушыць мех бывае не пад сілу. ***А цяпер всё Бэрозов сцягнулі, грэблі. В Бэрозові косілі, в Вядзі. В Бэрозові як укусіт гадюка, то вмірай, ніхто цебэ не довэзе, за водою. Гэндзе в Бэрозові гадзюкэй. Поедзем на грэбках в журавіны в Бэрозов. Тые скважыны на Бэрозові.***

**БЭРОЗОВСКАЯ КАНАВА**, *ж.* Выцякае з возера і кіруе ў бок вёскі Козікі. Пераказваюць, што пракапана-злучана з возерам у першую сусветную вайну, каб не прайшоў немец..

**ВЯДО**,*ж.* Частка возера, размешчаная насупраць колішняга месцазнаходжання вёскі Вяда (вёска існавала да 1942 года, спалена разам з жыхарамі 15.09.1942 года, пасля вайны не адрадзілася). Сёння адно з самых любімых месцаў з'езду баброўцаў пасля начное рыбалкі. ***В Вядзі уху варылі. В В'ядзі седзев в палатцы две ніделі.***

**ГВОЗДЗЕЦКАЯ КАНАВА**, *ж.* Выцякае з возера і ўпадае ў Козіцкую канаву.

**ГОРАНЕВКА**, *ж.* Частка возера, што датыкаецца да гары, апошняя крута пераходзіць у балота; балота. ***Там гора, такая нівка высокая, а радом болота...***

**ГРУДОК,** *м.* Частка возера. Возера Бабровіцкае дасягае найбольшай глыбіні 8 метраў. Амаль што пасярэдзіне возера цягнецца сапралевая паласа прыблізна 700 метраў у даўжыню і 300 метраў у шырыню, дзе ўзровень вады не болей 1,5 метра, а месцамі і то меней. Баброўцы называюць гэты ўчастак возера Г р у д о к. ***По тым Грудку повзае і повзае.***

**ГУБА**, *ж.* Частка возера, што ўяўляе сабою вялікую затоку і знешне па форме нагадвае губу. Так называецца і бліжэйшае балота.

**ГУБСКАЯ КАНАВА**, ж. Выцякае ў Губе з Бабровіцкага возера і злучае яго з Выганаўскім.

**ДОРОХОВ БЭРОХ,** *м.* Заберазь возера супраць Дорахавай ямы. ***Раней на Дорохов бэрох всё з'ежалі рыбакі.***

**ЗАЗЕРСКАЯ КАНАВА**, *ж.* Канава з Бабровіцкага возера ў Выганаўскае.

**ЗАЗЕРО**, *н.* Частка возера. ***Былі болоцінка, Зазеро.***

**КОЛО /ЛЯ/ ЧАПЛІ**, ж. Невялічкая прыстань ля возера з прылягаючымі балотцамі, ляском, полем, дзе ў пасляваенны час была сядзіба селяніна па мянушцы Чапля. Цяпер на месцы колішняй сядзібы Чаплі пабудаваны комплекс Азёрны. Назва комплексу Азёрны лічыцца толькі ў афіцыйных зводках; у комплекс уваходзяць двухпавярховы жылы дом, гідралагічная ўстаноўка, рознага тыпу службовыя прыбудоўкі. Комплекс адносіцца да Галоўпалессеводбуд.

**ЛАБУШКОВА ПРЫСТАНЬ,** *ж.* Частка возера і заберазі возера, дзе Лабушкі (мянушка роду) ставілі лод-кі, калі ездзілі за возера касіць сена. ***Выйшов я на Лабушкову прыстань.***

**НАДОРОХ**, *м.* Частка возера. Старажылы – ніхто не помніць, калі дакладна быў гэты выпадак, - пераказваюць, што некалі селянін Дорах, які жыў у в. Вяда, капаў гліну на востраве. Быў ужо пабудаваны зруб, трэ было рабіць печы. Капаў удвух з жонкаю, нагрузілі гліны ў лодку, а тады лодак такіх як сёння не было, былі чаўны, выкіравалі на глыб – лодка пад цяжасцю – замнога накапалі гліны – ц і мо па нейкай іншай прычыне – адзін Гасподзь ведае, як пры гэтым расказе прыгавор-ваюць баброўцы, - патанула. Людзі з вакольных вёсак – Бабровічы, Тупічыцы, у самім Вяда і на Востраве – чулі крыкі, але выратаваць не паспелі, якраз і поблізу на возеры нікога не было. З таго часу называюць гэтую яму – самае глыбокае месца аказалася ў возеры – Дорахавай, а частку возера, якая знаходзіцца наўкола ямы, - Надорох. Праўда, хто-кольвечы з старэйшых баброўцаў проста называюць Яма. ***Под осень карасік на Яме, аж густо было.***

**НА ХВЭЙКУ**, *ж.* Частка возера і таксама балота насупраць. ***На Хвэйцы рыба добрэ ловіцца на запіханку. Дзе ты косів? Косів на Хвэйцы. Там на все болото одна хвэйка.***

**ОЛЕШШЭ**, *н.* Частка возера і балота.

**ПОВВОСТРОВ /ВОСТРОВ, ОСТРОВ/,** *м.* Частка возера каля паўвострава, які ўступам урэзваецца ў возера. ***Кэй Вострава вэн (карасік) дзержыца, есьця.***

**ПОПОВА ДОЛІНА,** *ж.* Частка возера супраць могілак, дзе раней стаяла хата бацюшкі. ***Напротів жыв пэп, доліна – бо там глыбоко.***

**ПОПОВА ПРЫСТАНЬ**, *ж.* Частка возера па заберазі Паповай Даліны.

**ПЭНЬКІ,** *мн.* Частка возера і бліжэйшае балота. ***Бэрогом проехалі б до Пэнькэй.***

**РЭЧКА**, *ж.* Частка возера, балота. ***Ловілі на Рэчцы. На Рэчцы ейсьця, в Бэрозові жылая хатка. Прорыв з возера, раньш быв мостік.***

**РЭЧЫШЧЭ**, *мн.* Частка возера і прылеглае балота.

**САМСОНІКОВА РОЗОРА**, *ж.* Разора-месца на возеры, дзе самыя вялікія хвалі, бо там значная азёрная глыбіня. Самсонікава – ад імені Самсон, жыхар Бабровічаў, які калісь (пераказваюць людзі) і дняваў і начаваў на возеры якраз у гэтым месцы. ***На Самсоніковэй всходзілася бура. На Самсоніковэй розоры всегда мнэго волнэй.***

**СЕЛІШЧЫ**, *мн.* Частка возера, якая плаўна пераходзіць у балота, трава на якім вельмі ядкая, пагэтаму яно штогод выкошваецца. ***В Селішча дзето попёрло его (плав – кавалак пластмасы, якім назначаецца канец сецяў). Вэн (рыбак-браканьер) там в Селішчах попавса. Кінулі (сеці) коло Селішч. В этом году в Селішчах сено скісло. Селішча трэб скосіті, сільно на тэй гэд захламіцца. Трэба Селішча скосіті, коб не было посохле. Трэба сходіті в Селішча і спаліті посохло.***

**ЧЫСТЫ (ШЫРОКІ) БЭРОХ**, *м.* Частка возера і непасрэдна самая заберазь, дзе няма аніякай раслiннасці. ***Всі йдуть купатіса на Чысты Бэрох.***

**ЧЫЧУЕ**, *н.* Частка возера і балота. Ловілі рыбу в Чычуях. ***На Чычуех за рэчкаю. Тую другую (тоню) на Чычуех.***

Вядская гаворка лічыцца па праву адной з самых старажытных не толькі на Берасцейска-Пінскім Палессі, таму паасобныя словы і выразы, якія вышэй прыводзіліся ў кантэкстах, патрабуюць дадатковага каментарыю. ***Сцянуті**, зак.* *Схадзіць, адшукаць журавіны ў самых патаемных закутках. **Грэбті**, незак., асудж. Набіраць многа; частка самых спелых журавінаў хаваецца ў мшыстых купінах, якія разгрэбваюць рукамі.* ***За вадою.*** З Чыстага Берага або ад Чаплі, адкуль кіруюць лодкі з ягаднікамі ў балота Бярозаў праз возера звыш 5-ці км. ***Грэбкі***, мн. *Вёслы на ўключынах.* Калі сталі цяжкасці з бензінам, то вяскоўцы перайшлі на грэбкі, - імі намнога лягчэй дабірацца да Бярозава, чым вяслом (вялікая адлегласць). ***Скважына***, ж. Комплекс Азёрны другі ў РБ, яшчэ ёсць на Браслаўскіх азёрах, які займаецца вывучэннем воднага рэжыму Бабровіцкага возера. Ссвідравіны для вымярэння знаходзяцца наўкола ўсяго возера. ***Павзаті***, *незак., асудж. Лавіць на адным месцы.* ***Густо.*** *Многа.* ***Запіханка**, ж. Сетка невялікіх памераў, да 20 метраў.* ***Посохля**, ж. Леташняя трава, якую звычайна ранняю вясною спальваюць.*

# Некаторыя пытанні тапанімікі ў рэгіёне на мяжы Маладзечанскага і Валожынскага раёнаў

Вядомы беларускі гісторык Леанід Лыч у сваёй кнізе "Назвы зямлі беларускай" трапна прыводзіць цытату з "Большой Советской Энциклопедии", дзе запісана: "Тапанімія – важная крыніца для даследавання гісторыі мовы... дапамагае аднавіць рысы гістарычнага мінулага народаў, вызначыць межы іх рассялення, абвесці вобласці былога распаўсюджвання моў, геаграфію культурных і эканамічных цэнтраў, гандлёвых шляхоў і г.д.".

Назвы населеных пунктаў Беларусі, у якіх увасоблены яе геаграфічныя, прыродна-кліматычныя асаблівасці, дэмаграфічныя рысы, бытавыя ўмовы, часта вызначаюцца паўтаральнасцю і шматварыянтнасцю, таму што на яе зямлі багата месцаў, якія маюць шмат чаго агульнага паміж сабой. Не з'ўляецца выключэннем і дадзены рэгіён.

Тут ёсць самыя пашыраныя назвы сельскіх населеных пунктаў, утвораныя ад кораня ***–сел- (-сял-, -сёл-)***: ***Старое Сяло, Сяледчыкі***, дзве вёскі з назвай ***Навасёлкі.***

Ёсць вялікая вёска ***Дубровы*** і чыгуначная станцыя ***Дубравы.***

Маюцца дзве вёскі ***Уша*** і чыгуначная станцыя ***Уша***, якія знаходзяцца ў басейне рэчкі Уша, прытока Віліі.

Ёсць буйная вёска ***Гарадок***, былое мястэчка. Ёсць вёска ***Бакшты.***

Ёсць вёскі, назвы якіх звязаны з рассяленнем татараў на Беларусі:

***Татары, Мурзы*** і чыгуначная станцыя ***Татаршчызна.*** У вёсцы Мурзы палова насельнікаў маюць прозвішча Мурза.

Асобнай увагі заслугоўвае размяшчэнне былых маёнткаў. У Заходняй Беларусі яны амаль зберагліся, але панскія дамы ў асноўным не захаваліся. Звычайна на адлегласці паўкіламетра ад маёнтка размяшчаліся прылеглыя вёскі: аднаіменныя, але часцей рознаіменныя.

Напрыклад маёнтак ***Пятроўшчына*** і вёска ***Пятроўшчына***. Маёнтак ***Гярдуцішкі***, вёска ***Гярдуцішкі*** і млын ***Гярдуцішкі***. Млын, які размяшчаўся ў вярхоўях рэчкі Бярэзіны, каля якога стаялі толькі тры хаты, знаходзіўся на адлегласці 1 км ад маёнтка і больш чым 1,5 км ад вёскі.

Далей ідуць рознаіменныя назвы. Маёнтак ***Копцеўшчына***, вёска ***Пажарышчы*** і млын ***Глінішчы***. Каля млына была ўсяго адна хата і знаходзіўся ён на адлегласці паўкіламетра ад вёскі і 1 км – ад маёнтка.

Маёнтак ***Доўцавічы*** і мястэчка ***Гарадок***. Маёнтак ***Банцыры*** і вёска ***Кукелі***. Маёнтак ***Вязынка*** і вёска ***Сяледчыкі***.

Пасля 60-х гадоў пачаўся падзел на перспектыўныя і неперспектыўныя вёскі. У выніку гэтага падзелу зніклі "неперспектыўныя" вёскі і хутары: ***Дзякаўшчына, Балоткаўшчына, Копцеўшчына, Мішараўцы, Тупальшчына*** і інш. У вёсках ***Віцулавічы і Русалішкі*** засталіся 1-2 жыхары.

У эпоху будаўніцтва камунізму падлягалі ўзбуйненню не толькі калгасы, але і вёскі. На шашы Гарадок-Алёхнавічы знаходзяцца тры вёскі – ***Такарэўшчына, Кукелі і Кашына***. У пачатку 70-х гадоў іх аб'ядналі ў адну вёску ***Такарэўшчына***.

У 1972 годзе ў сувязі са стварэннем мемарыяльнага комплексу ў ***Вязынцы*** тры вялікія вёскі: ***Сяледчыкі, Гурнавічы і Верамейкі***, а таксама былы маёнтак ***Вязынка*** былі аб'яднаны ў адну вёску ***Вязынка***, у выніку чаго страцілі назвы вышэйзгаданыя вёскі.

Былы маёнтак ***Доўцавічы*** цяпер разбудаваўся. У ім знаходзіцца больш за 15 хат, але калі едзеш па шашы Валожын-Гарадок, на дарожным указальніку бачыш надпіс: "Гарадок". Гэта не зважаючы на тое, што ўласна Гарадок знаходзіцца на адлегласці 0,5 км ад Доўцавіч. Знікла назва паселішча, якое ўпамінаецца ў кнізе вядомага краязнаўцы Г. А. Каханоўскага "Повязь вякоў". Адсюль пісаў у "Нашу Ніву" да рэвалюцыі Язэп Валюш.

Асобнага пытання заслугоўваюць назвы вёсак, якія зніклі ў выніку забудовы гарадоў. Як вядома, выдатны вучоны Барыс Кіт нарадзіўся ў вёсцы ***Агароднікі***, якая ўвайшла цяпер у склад гарадскога пасёлка ***Карэлічы***. Добры прыклад маем ў горадзе Радашковічы. Тут гарадскія ўлады захавалі назву былой вёскі ***Валокі***, якая ўвайшла ў склад горада, у выглядзе вуліцы ***Валокі***.

Вельмі многа згублена старажытных назваў паселішчаў у выніку забудовы Мінска. Далёка не поўны пералік зніклых: ***Баранаўшчына, Будзілава, Малая Сляпянка, Вялікая Сляпянка, Цівалі*** і шмат іншых. Толькі некаторым пашчасціла захавацца ў назвах гарадскіх мікрараёнаў. ***Курасоўшчына, Малінаўка, Уручча, Серабранка, Зялёны Луг***. Рэшткі вёскі ***Пятроўшчына*** існуюць сёння як вуліца ***Пятроўшчына***. Але такіх назваў зусім мала. Пашанцавала ***Масюкоўшчыне*** - яна засталася ў трох назвах: гарадскі мікрараён ***Масюкоўшчына***, вайсковы гарадок ***Масюкоўшчына*** і пункт прыпынку на чыгунцы ***Масюкоўшчына***. Захавалі назвы былыя паселішчы, якія размяшчаліся каля чыгункі, у назвах станцый ***Сцяпянка*** і ***Козырава***.

*Яўген Ігнатовіч.*

